# Газета для вас






ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

№ 13(224) 31 сакавіка – 6 красавіка 2000 г. | ГРАМАДСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАННЕ, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997 г. | Цана — 50 руб.

# СВЯТА, ЯКОЕ СТАЛА ТРАГЕДЫЯЙ

25 сакавіка 1918 г. Выканаўчым Камітэтам Рады Усебеларускага З'езду ў Мінску была прынята III устаўная грамата, якая абвяшчала незалежнасць Беларусі. Была ўтворана Беларуская Народная Рэспубліка (БНР). Незалежнасць БНР прызналі Украіна, Польшча, Эстонія, Чэхаславаччына, Аўстрыя, Фінляндыя, Венгрыя і іншыя краіны свету. Але, на жаль, незалежнасць Беларусі не была патрэбна ні Германіі (Беларусь была тады акупавана немцамі), ні бальшавікам. І тым не менш, гэты дзень меў вельмі вялікае значэнне: упершыню беларускі народ адчуў сябе роўным сярод роўных, захацеў быць самастойным і незалежным, захацеў адрадзіць і развіць нацыянальную культуру і мову.

Гэты дзень з'яўляецца нацыянальным святам усіх беларусаў. Верныя сыны сваёй Радзімы заўсёды шанавалі гэтае свята. Пасля распаду СССР гэты дзень пачаў адзначацца шырокім колам грамадства Беларусі. Але расійскія палітыкі і прамаскоўскія чыноўнікі Беларусі не прызнаюць яго. Гэты год стаў асабліва жорсткім. Дэманстрацыя ў Мінску была разагнана. І я, як сведка гэтых падзеяў, магу аб гэтым расказаць.

Улады забаранілі шэсце і мітынг, тым самым парушыўшы Канстытуцыю. Але нягледзячы на гэта, народ ішоў да плошчы Я. Коласа. За гадзіну да пачатку акцыі да плошчы былі сцягнуты міліцыянты, байцы АМАПа, спецназ і салдаты ўнутраных войскаў. Плошча была перакрыта. Усе падыходы да яе былі ацэплены. Народ быў вымушаны збірацца на суправежных вуліцах і чакаць. Потым, калі некалькі чалавек паспрабавала наблізіцца да плошчы, яны былі жорстка збіты, кінуты ў аўтазак і звезены ў невядомым накірунку. Каля філармоніі пачалася так званая "зачыстка". Людзей выхоплівалі з натоўпу, білі гумовымі палкамі і кідалі ў машыны. Амаль усе журналісты былі схоплены (ГРТ, РТР, НТБ, Рэйтэр), якія знаходзіліся там, каб асвятляць ход дзеяў. Усяго, па папярэдніх звестках, было забрана каля 500 чалавек.

Гэта было жудасна. Асаблівы шок быў у людзей, калі на плошчы з'явіліся БТР. Да чаго трэба ненавідзець свой народ, каб кінуць супраць яго танкі! Але беларусы праявілі мужнасць. Яны не разбегліся, а згрупаваўшыся ў калону, рушылі па ходніках на плошчу Бангалор. Усяго да плошчы дайшло каля 10 тысяч чалавек.

Тут адбыўся мітынг. Мітынг, які павінен быў быць святочным. Але ўлады зрабілі ўсё, каб ператварыць свята ў трагедыю. Быў зачытаны спіс тых, каго затрымалі. Сярод іх былі прадстаўнікі польскага Сойму, прадстаўнік АБСЕ, спецдакладчык ЗША і інш. На мітынгу мы пачулі, што была ўзята штурмам управа БНФ, прычым тых, хто яе ахоўваў збівалі да непрытомнасці. Людзей затрымлівалі і пасля мітынгу.

На Дзень Волі магло б выйсці больш людзей, чым на Марш Свабоды-2. Таму і забаранілі акцыю. Улады баяцца свайго народу.

Калі казаць пра эканамічны стан, то на міліцыю былі выдаткаваны вялізныя грошы. Як паўжартам, паўсур'ёзна сказаў мой знаёмы: "Яшчэ з дзесятак такіх акцый і Лукашэнку не будзе за што сеяць".

Дзеянні ўладаў яшчэ раз паказваюць, што грамадска-палітычны дыялог, які праходзіць у Беларусі, уладам не патрэбны.

І апошняе. Вялікае свята стала трагедыяй. Людзей збівалі за волю, за незалежнасць. Бачна, яна нам даецца вельмі цяжка...

*Зміцер ЯТЧЭНЯ, спецыяльна для "Газеты для вас". Фота IREX/ProMedia.*







## КАМП'ЮТЭРЫ Ў ПРАВІНЦЫІ

**БЕЛААЗЁРСК.** Агляд-конкурс на лепшае выкарыстанне камп'ютэрнай тэхнікі праведзены сярод прафесійна-тэхнічных вучылішчаў Брэстчыны. Намінацыі былі самыя розныя: ад выдавецкай дзейнасці і праграмных матэрыялаў да стварэння вучэбных відэафільмаў.

Падобнае спаборніцтва праводзілася ў вобласці ўпершыню. У прызавую тройку трапіла ПТВ № 82 г. Белаазёрска, якому прысуджана трэцяе месца.

*Алесь САШЫН.*



## Пасмяёмся разам з...

*паштальёнам Любішчыцкага аддзялення сувязі Івацэвіцкага раёна Раісай Саўчык:*

Сядзіць у шафе моль-маці і дачка. Дачка-моль кажа:

— Давай, мамачка, выляцім у пакой, пагуляем.

— Сядзі, еш футра, бо заб'юць яшчэ цябе гаспадары.

— А я ўчора вылятала — і мне толькі апладзіравалі.



## "ЦУД" З РУКОЙ

**БАРАНАВІЧЫ.** Атрымала працяг гісторыя з затрыманнем старшыні Баранавіцкай арганізацыі БНФ "Адраджэнне" Алеся Пікулы. Нагадаем, што ён быў затрыманы 22 кастрычніка 1999 года і аштрафаваны за "лаянку": покліч "Жыве Беларусь!" міліцыянты палічылі за нецэнзуршчыну. Спадара Пікулу пратрымалі ў пастарунку 3-е сутак і толькі 25-га даставілі ў гарадскі суд, які і вынес сваё рашэнне. У гэты ж дзень А. Пікула падаў скаргу ў пракуратуру на незаконныя дзеянні міліцыі. Тым болей, што падчас затрымання яму па віне ахоўнікаў парадку быў нанесены "закрыты траўматычны вывіх левай рукі". Пасля чаго ў траўмапункце быў накладзены гіпс.

14 лютага адбылося пасяджэнне Баранавіцкага гарадскога суда, на якім суддзя Каначэўская спыніла адміністрацыйную справу ў дачыненні А. Пікулы ў сувязі "з адсутнасцю складу правапарушэння". Але пракуратура адмовілася ўзбудзіць крымінальную справу ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі, якія "так тактоўна" праводзілі затрыманне і выдзелілі асобную камеру на трое сутак для сп. Алеся. Трымалі, нягледзячы на тое, што на руку быў накладзены гіпс.

Атрымліваецца, што А. Пікула невінаваты, але і траўма яго рукі з'явілася сама сабою, "як цуд Божы". Гарадская арганізацыя БНФ "Адраджэнне" і Праваабарончы цэнтр "Вясна" маюць намер працягваць судовае разбіральніцтва дзеля высвятлення і выносу адмысловай "падзякі" аўтарам гэтага "цуду з рукой".

*Прэс-служба БНФ "Адраджэнне" г. Баранавічы.*

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Расследаваць і пакараць

***Міжнародная федэрацыя журналістаў (МФЖ), якая аб'ядноўвае больш за 450 тысяч журналістаў ва ўсім свеце, выказала "глыбокую заклапочанасць у сувязі з масавымі арыштамі беларускіх і замежных журналістаў падчас дэманстрацыі 25 сакавіка ў Мінску".***

У заяве, падпісанай генеральным сакратаром федэрацыі Айданам Уайтам 27 сакавіка, гаворыцца, што "МФЖ разглядае дзеянні праваахоўных органаў у якасці наступу на свабоду прэсы ў Беларусі". Міжнародная федэрацыя журналістаў заклікае беларускія ўлады правесці "неадкладнае расследаванне" падзей 25 сакавіка і прыцягнуць вінаватых да адказнасці.

У той жа дзень сваё стаўленне да падзей у Мінску 25 сакавіка выказала яшчэ адна аўтарытэтная арганізацыя - "Міжнародная амністыя". "Затрымаўшы каля 30 журналістаў, якія асвятлялі мірную дэманстрацыю ў суботу ў Мінску, беларускія ўлады яшчэ раз прадпрынялі спробу прыглушыць крытыку іх нецярпімага стаўлення да палітычных апанентаў з боку міжнароднай супольнасці. Гэтая нязграбная спроба прымусіць замаўчаць беларускіх і замежных журналістаў дапаўняе і без гэтага сумны спіс парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі", - гаворыцца ў заяве "Міжнароднай амністыі".

Аднак 25 сакавіка "беларускі ўрад паказаў усяму свету, што яго нецярпімасць да незалежнай думкі дасягнула новага ўзроўню", лічыць праваабарончая арганізацыя.

## Сесія збярэцца ў Маскве

***6 красавіка ў Маскве пройдзе 14-я сесія Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі (ПС СБР).***

Маючая адбыцца сесія будзе прысвечана вырашэнню арганізацыйных пытанняў. Справа ў тым, што пасля прайшоўшых у снежні 1999 года ў Расіі парламенцкіх выбараў адналілася значная частка расійскай дэпутацыі ў ПС СБР. На маючай адбыцца сесіі парламентарыі Беларусі і Расіі пазнаёмяцца адзін з адным, пераабяруць кіруючыя і рабочыя органы Парламенцкага сходу, зробяць ратацыі ў пастаянных парламенцкіх камісіях.

У прадстаўніцтве ПС СБР таксама паведамілі, што праект саюзнага бюджэту на 2000 год дагэтуль не паступіў у Парламенцкі сход. Аднак не выключана, што гэты дакумент будзе ўнесены Выканкамам СБР у саюзны парламент на працягу часу, які застаўся да сесіі.

## Жонкам былых кіраўнікоў

***Савет Міністраў Беларусі павялічыў даплаты да пенсій тром грамадзянам краіны — удовам былых кіраўнікоў БССР.***

У прыватнасці, Паліне Машэравай, удаве першага сакратара Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі Пятра Машэрава, памер даплаты павялічаны да 350 працэнтаў мінімальнага памеру пенсіі па ўзросце. Веры Сургавай, удаве былога старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Фёдара Сурганава, і Галіне Клімавай, удаве былога намесніка старшыні Савета Міністраў БССР Івана Клімава, памер даплат павялічаны да 300 працэнтаў мінімальнага памеру пенсіі па ўзросце.

## Сітуацыя ўскладнілася

***У першыя месяцы 2000 года сітуацыя з паступленнем падатковых плацяжоў у даходную частку бюджэту Беларусі некалькі ўскладнілася.***

Пра гэта 28 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў сталіцы заявіў намеснік старшыні Дзяржаўнага падатковага камітэта Уладзімір Жук.

Прычыны зніжэння падатковых плацяжоў, зазначыў ён, заключаюцца ў тым, што некаторыя плацельшчыкі былі не гатовы своечасова пераключыцца на новы парадак вылічэння ПДВ, а таксама ў росце колькасці стратных прадпрыемстваў. Разам з тым, па словах намесніка кіраўніка ДПК, сітуацыя выпраўляецца і ўжо ў сакавіку чакаецца рост падатковых паступленняў прыкладна на 8 працэнтаў у параўнанні з лютым.

***(БелаПАН).***



ГОЛАС НАРОДА

## Ці прытрымліваецеся вы Велікоднага посту?

***Велікодны пост у праваслаўных вернікаў пачаўся яшчэ 13 сакавіка. Толькі не сакрэт, што зараз людзі інакш адносяцца да рэлігійных традыцый і правіл. Нават з нашых бабуль і дзядуль мы не заўсёды бярэм прыклад, таму што і яны не ўсе пасцяцца. А вось святкаваць Вялікдзень любяць, мабыць, усе. Вось мы і пацікавіліся ў жыхароў Бярозы: ці трымаюць яны пост?***



**Марына Васільеўна, беспрацоўная:** Не, я не пашчу, бо цяжарная. Мае бацькі не пасцілі і не вучылі гэтаму. Ды і не задумвалася я над тым, што трэба пасціцца.

Лічу, што галоўная мэта посту — духоўнае ачышчэнне. Для кожнага хрысціяніна гэта час паглыбленага самааналізу і асэнсавання назапашаных грахоў.



**Сяргей і Оля, вучні:** Мы не пасцімся. Хоць бывае, што бабуля можа прымусіць (гаворыць Сяргей). Яна тэлефануе маме і тая пачынае гатаваць там розныя вегетарыянскія стравы. Бацькі ж захоўваюць пост.



**Галіна Іванаўна інжынер-цеплатэхнік:** Пакуль не пашчуся, бо здароўе не дазваляе. А вось перад Вялікаднем я пашчуся тыдзень. Калі б мела магчымасць, то пасцілася б больш.

Я даўно ўсвядоміла, што пост патрэбен не Богу, а нам, людзям.



**Дзмітрый, шафёр:** Яшчэ не пачынаў пасціцца. Без сала і без мяса чалавек слабы. Я думаю, каб беларус жыў на французскай дыеце, то не вытрымаў бы, не выжыў бы. Так, кажуць, што пасціцца карысна для здароўя, але ўсё ж не пашчуся.

*У народ хадзілі Аляксандр ГОРБАЧ, Наталля КАПЫЦІЧ, Аляксей ГАНЧУК (фота).*

☎ АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Па якой Канстытуцыі жывём?

***— Гэтае пытанне ўзнікла ў мяне пасля таго, як 15 сакавіка гэтага года я прачытаў у дзяржаўнай раённай газеце г. Івацэвічы літаральна наступнае: "Чацвёрты год наша краіна жыве па Канстытуцыі 1994 года..." ("Івацэвіцкі веснік", № 21). Спярша я памкнуўся пазваніць у тую рэдакцыю, але потым перадумаў. Раней двойчы я званіў туды па канкрэтных пытаннях, але, акрамя грубасці, накшталт, хто ты такі — бэнээфавец і г. д. — нічога не пачуў. А я наадварот ніколі ні ў якой партыі не быў.***

***Можа, вы мне адкажаце на маё пытанне?***

***Міхаіл Максімавіч, г. Івацэвічы.***

Сказаць па праўдзе, дык ваш "веснік", паважаны Міхаіл Максімавіч, які вы чытаеце, наўмысна скажае факты. Па Канстытуцыі 1994 года Беларусь жыла да так званага рэферэндуму, што адбыўся ў лістападзе 1996 года. Тады па сутнасці была "прынята" новая Канстытуцыя, а не нейкія змены і дапаўненні ў яе, пра якія трубяць дзяржаўныя прапагандысты розных узроўняў. У ролі такога трубача выступае і "Івацэвіцкі веснік".

***Канстанцін ДЗЯМЧУК.***

КУЛЬТУРА

## Выстава з Кітая

Выставачная зала горада Баранавічы запрашае ўсіх на выставу традыцыйнага кітайскага адзення. Арганізатары мерапрыемства — Кітайскае пасольства і Беларускі саюз моладзі.

Гэта ўжо трэцяя выстава ў горадзе, прысвечаная Кітаю. На ёй прадстаўлены традыцыйныя народныя строі кітайцаў — асноўнай нацыянальнасці краіны, а таксама адзенне 55 этнічных груп, што жывуць тут. Вопратка прадстаўлена ў арыгінале і на маляўнічых фотаздымках. Акрамя гэтага, наведвальнікі могуць пабачыць шматлікія аксесуары.

***Алесь САШЫН.***

СЛУЖБА 01

## КОНКУРСНЫ МАРАФОН

Заканчваюцца заняльныя адборачныя туры конкурсу юных знаўцаў пажарнай справы сярод чацвёртакласнікаў сярэдніх школ Івацэвіцкага раёна. На кожным з іх вызначаны пераможцы. Імі сталі каманды "Выратавальнік" (СШ № 1 г. Івацэвічы), "Саламандра" Косаўскай СШ, "Цілі-Бом" (Быценская СШ), "Агеньчык" з Рэчкаўскай СШ і "Агеньчык" Амяльнянскай СШ.

Усе мацнейшыя каманды ўзнагароджаны прызамі — калькулятарамі, каляровымі алоўкамі, электрычнымі ліхтарыкамі і кнігамі. Грошы на іх набыццё выдаткавалі арганізатары конкурсу — раённы аддзел адукацыі, АВПС і раённы камітэт Чырвонага Крыжа.

Наперадзе правядзенне Івацэвіцкага прыгараднага тура, у якім бяруць удзел вучні Любішчыцкай, Яглевіцкай, Воленскай, Хадакоўскай, Стайкаўскай і Падстарынскай СШ. Заканчыцца марафон раённымі спаборніцтвамі, якія плануем правесці ў маі.

Падыходзіць да канца таксама раённы конкурс на лепшы малюнак, плакат ці дробны выраб проціпажарнага накірунку. На заняльных турах гэтага конкурсу адабраны арыгінальныя і прыгожыя работы гурткоўцаў Хадакоўскай СШ, малюнкі Сярожы Лаўшуна са Святавольскай СШ, Дзімы Мельніка і Ані Салановіч — вучняў Аброўскай СШ, Каці Шчурко і Дзімы Квашэвіча (Вялікагацкая СШ), Аліны Шэрка і Яўгена Габеца з Вулькааброўскай СШ. Усе пададзеныя работы разгледзіць абласное журы і вызначыць лепшых.

***Валерый МОЛАШ, ст. супрацоўнік ЦНПБ АВПС г. Івацэвічы і раёна.***

КРЫМІНАЛ

## Захацелася ялавічыны

**ПРУЖАНЫ.** Два галоўныя спецыялісты калгаса імя Дзяржынскага ўкралі ў сваёй гаспадарцы цялушку вагой 150 кілаграмаў. Ялавічына не трапіла на сямейны стол: перашкодзіла міліцыя. На двух сабратоў па мясному бізнесу заведзена крымінальная справа.

***Алесь САШЫН.***

## Обчистили магазин

**БАРАНОВИЧИ.** Об очередном ограблении сельского магазина можно было бы и не писать, ибо это преступление настолько распространенное, что едва ли не каждый месяц какой-нибудь магазинчик в районе да подвергается набегу гастролеров. Так вышло и на этот раз. Спилив навесные замки и сорвав дверные завесы, а затем обесточив сигнализацию, преступный дуэт, состоящий из ранее судимого Х. и его 18-летней подружки, обчистил магазин в деревне Лесная на 123.587 деноминированных рублей.

***Полина ГАЛИЕВСКАЯ.***



РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

***Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 29.03.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):***

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 1000—2200 | 1500—2500 | 1000—1800 | 1200—1700 |
| Сала салёнае | 800—1000 | 1500 | 1100 | 1000 |
| Алей (1 л) | 650—850 | 600—900 | 550—750 | 660—750 |
| Яйкі | 400—450 | 400—500 | 380—450 | 445—460 |
| Малако (3 л) | 250 | 300 | 270 | 260 |
| Тварог | 350 | 400 | 400—500 | 360 |
| Масла сметанк. | 1100 | 1800 | 1000 | 1500 |
| Цыбуля рэпч. | 250 | 150—220 | 200 | 200 |
| Капуста | 80—100 | 100—110 | 150 | 90 |
| Бульба | — | 120 | 100—120 | 95—100 |
| Морква | 200 | 200—250 | 170—200 | 190 |
| Агуркі свеж. | 800—950 | 550—800 | 900 | 1100 |
| Яблыкі | 300—480 | 300—400 | 340—450 | 400—460 |
| Памідоры | 2400 | 2500 | 2100 | — |
| Вінаград | 2000 | 2500 | 2600 | — |
| Грэцкія арэхі | 800—900 | 850 | 850—950 | 820 |
| Часнок | 1000 | 1200 | 1200 | 1200 |
| Лімоны | 1000 | 1000 | 1100 | 1100 |
| Апельсіны | 700—800 | 650—800 | 790 | 850 |
| Бананы | 700—800 | 720—800 | 790 | 850 |
| Мандарыны | 900—1000 | 920 | 880 | 960 |
| Грэчка | 600 | 580 | 650 | 650—660 |
| Макар. вырабы | 270—400 | 300—400 | 280—320 | 270—300 |
| Рыс | 400—430 | 500 | 430—450 | 450—460 |
| Манныя крупы | — | 350 | 350 | 360 |
| Проса | 250 | 300 | 230 | 300 |
| Цукар | 270 | 260 | 270 | 270 |
| Мёд | 2.400 | 2.500 | 2.500 | 2.400 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 920 | 950 | 895 | 920 | 920 | 950 | 870 | 920 |
| 1 дойчмарка | 460 | 475 | 445 | 460 | 460 | 475 | 440 | 460 |
| 1 рубель Расіі | 30 | 31 | 30 | 31 | 30 | 31 | 30 | 31 |

● ВСТРЕЧИ

# Мудрость идет с Востока

В горисполкоме г. Барановичи состоялся круглый стол на тему "Этноконфессиональная ситуация в городе на пороге третьего тысячелетия". В беседе приняли участие представители двух христианских конфессий — православные и католические священники, зампред совета по делам религии и национальностей Брестского облисполкома В. Н. Марченко, работники горисполкома и журналисты аккредитованных в городе средств массовой информации.

На сегодняшний день в Барановичах зарегистрированы и действуют 16 конфессий. И нельзя не согласиться со словами протоиерея отца Александра Дичковского, что многих из них нельзя и церковью называть, но государство сочло нужным их зарегистрировать. Традиционные для республики в целом и для города православная и католическая конфессии не испытывают недостатка в количестве прихожан. Волнует, скорее, другая проблема — недостаток культовых зданий. На сегодняшний день в городе есть две церкви, одна из которых реконструируется, а другая только-только построена. Из трех действующих костелов два в стадии строительства.

*Алина ПЕТРОВА.*
*г. Барановичи.*

● КОНКУРСЫ

## "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*НАСТЯ, по гороскопу — Телец. В свободное от хореографии, волейбола, дизайна, моделирования, аэробики время хожу в школу. Моя мечта — побывать в Парижском Дисней-лэнде, а кумир — известный актер Дэвид Духовный.*

## "СЯБРЫ ГАРМОНІІ І ШТАНГІ"



*МАКСІМ, па гараскопу — Вадалей. Вольны час праводжу ў спартыўнай зале. З задавальненнем слухаю "Наутилус пампіліус", "Арыю". З накірункаў у музыцы аддаю перавагу року. Любімы акцёр — Шон Конары.*

*Падабаюцца высокія стройныя бландзінкі. Пажадана, каб у яе быў бюст, як у Памэлы Андэрсан.*

● АФІЦЫЙНА

# Пашырана плошча заказніка

Па рашэнні ўрада значна пашырыў сваю тэрыторыю біялагічны заказнік "Спораўскі", размешчаны ў Бярозаўскім раёне. Справа ў тым, што на далучаным участку выяўлена адна з найбуйнейшых у Еўропе папуляцый рэдкіх птушак, а таксама атрыманы новыя звесткі аб пагражальным стане нізкіх балот у Беларусі і Еўропе ў цэлым.

Вучоныя прызналі міжнародную значнасць гэтага заказніка, а таксама неабходнасць стварыць тут ахоўную тэрыторыю самага высокага еўрапейскага статусу. Зараз беларускія і англійскія вучоныя праводзяць тут даследаванні ў рамках праекта "Распрацоўка планаў кіравання ключавымі нізіннымі балотамі Палесся". Яго мэта — садзейнічаць стабілізацыі гідралагічнага рэжыму тэрыторыі і захаванню рэдкіх раслін і жывёл.

*Валянціна КАЗЛОВІЧ.*

● ЦІ ЧУЛІ?

# Шукайце "Кур'ера"

Выйшаў з друку першы нумар беларускага недзяржаўнага грамадска-палітычнага часопіса "Кур'ер". Па стылі афармлення і падборы матэрыялаў гэты двухмоўны (беларуска-рускі) часопіс, які на першым этапе будзе выходзіць штомесяц, можна параўнаць з папулярным некалі расійскім выданнем "Огонек" часоў перабудовы. Галоўны рэдактар часопіса Ігар Германчук узначальваў у свой час беларускую недзяржаўную газету "Свабода".

У перадавым артыкуле першага нумара ён паведамляе, што рэдакцыя ставіць перад сабою мэту ператварыць часопіс у штотыднёвік, "прадукт якасна новага ўзроўню - з пункту погляду журналістыкі, дызайну і паліграфіі", які ўяўляў бы цікавасць для самай шырокай аўдыторыі. "Кур'ер", па словах галоўнага рэдактара, арыентаваны перш за ўсё "на людзей прафесійна актыўных, высокаадукаваных, энергічных - тых, каго ў іншых краінах прынята называць "сярэднім класам". Цэнтральнай тэмай першага нумара стала праблема будучага Беларусі. Панараму меркаванняў наконт магчымасці пераменаў у краіне ў бліжэйшай перспектыве прадставіў журналіст Вадзім Казначэеў. У ягоным артыкуле свой пункт погляду на гэтую тэму выкладаюць такія вядомыя палітыкі і грамадскія дзеячы, як Станіслаў Багданкевіч, Рыгор Васілевіч, Аляксандр Патупа, Уладзімір Арлоў, Карлас Шэрман і іншыя. Міжнародны аспект беларускай перспектывы раскрывае журналіст Раман Якаўлеўскі. А ў артыкуле Віталя Цыганкова даказваецца аптымістычная думка, што працэс пераменаў да лепшага непазбежна пойдзе, "і нават вельмі хутка". Апрача гэтага, у першым нумары знайшлося месца для іншых тэм, у прыватнасці, палітычнага партрэта міністра ўнутраных спраў Юрыя Сівакова, ацэнкі стану апазіцыі, эканамічнага статусу Беларусі ў свеце, сатырычнага эсэ "Вярзіце лухту!", тэмы чарнобыльскага саркафага.

● ПОГЛЯД

# Я ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, "РАСІЯ"

Днямі на вочы патрапіў спіс усіх калектыўных гаспадарак Брэстчыны. Кінулася перш за ўсё ў вочы поўная героіка-рэвалюцыйная накіраванасць іх назваў. Многія з тых назваў безнадзейна ўстарэлі, але нікога сёння гэта не здзіўляе, ніхто не выказвае, што, маўляў, "Заря коммунизма" сёння гучыць як нейкае непаразуменне, глупства. Асабліва пасля таго, як кампартыя стала звычайнай, малапрыкметнай арганізацыяй, а іхняя мара — камунізм, якога ніхто не бачыў — ёсць і застаўся нейкім міражом, фікцыяй.

Большую частку назваў гаспадарак (а ўсяго іх у Брэсцкай вобласці 373) можна разбіць на чатыры ўмоўныя групы.

Першая — гэта група гаспадарак, назвы каторых адлюстроўваюць імя якога-небудзь палітычнага ці, што больш дакладна, камуністычнага дзеяча — Леніна, Дзяржынскага, Кірава, Свярдлова.

Другая — гэта назвы, у якіх адлюстраваны ўмоўны камуна-рэвалюцыйны пафас, сімвалы камунізму, нават з'явы прыроды, сэнс якіх можа быць зразумелы толькі тым, хто жыў і працаваў у часы гэтых подзвігаў і бітваў — "Рассвет", "Заря", "Искра", "Правда", "Восход", "Большевик".

Трэцяя, адносна невялікая група назваў калгасаў-саўгасаў, — гэта назвы, якія прымеркаваны да некаторых дат, зноў-такі рэвалюцыйных ці камуністычных ("60 лет Октября" і г. д.). Чацвёртая — адзіная апалітычная група, дзе адлюстраваны назвы вёсак, мястэчкаў, аб'ектаў прыроды — "Остромечево", "Зеленевичи", "Беловежский", "Домановo", "Приозёрный".

У назвах калгасаў—саўгасаў Брэстчыны ўжыта 27 прозвішчаў. Часцей за іншыя ўжываецца прозвішча камуністычнага правадыра Леніна — дзесяць. Дзевяць калгасаў ці саўгасаў носяць імя Кірава, шэсць — Дзяржынскага, шэсць — Чапаева, што, калі ўлічваць сенняшнюю анекдатычнасць гэтай рэвалюцыйнай фігуры, даволі сімвалічна. (Бо над справамі ў калгасна-саўгаснай сістэме застаецца смяяцца, калі не плакаць).

Так, сярод 27 прозвішчаў ёсць шмат гістарычных фігур, праўда не зусім зразумела, якія адносіны маюць большасць з іх да сельскай гаспадаркі. Калі можна зразумець большую ці меншую сімпатыю працаўнікоў вёскі да Мічурына (3 гаспадаркі носяць яго імя), то якія адносіны да беларускіх палеткаў і сенажацяў маюць Гагарын, Катоўскі, Чкалаў, Кутузаў, Сувораў, Ламаносаў ці Надзея Крупская — застаецца толькі здагадвацца.

І самае сумнае. У гэтым легіёне імён толькі тры беларускія: Машэраў, Паліўка (Іванаўскі р-н), Вільчкоўскі (Баранавіцкі р-н).

Есць нават калгас імя М. Горкага. Відаць, тое, што ў беларусаў есць свае значныя літаратурныя фігуры — Купала, Мележ, Багдановіч — нікому і ў галаву не прыйшло.

Няма ніводнага калгаса імя Сталіна, бацькі калгасна-саўгаснай сістэмы. Даволі дзіўна.

Сярод героіка-рэвалюцыйных назваў на першым месцы стаяць, пачтаруся, тыя неканкрэтныя і мала што кажучыя словы, што абазначаюць час сутак, прыродныя з'явы, якім камуністы прыдавалі нейкі асаблівы змест — "Рассвет" (13 — найбольш часта сустракаемая назва калгасаў-саўгасаў Брэстчыны), а таксама "Заря", "Восход". Даволі шмат калгасаў і саўгасаў, імя якіх маюць непасрэдныя адносіны да камуністычнай ідэі - "Искра", "Правда", "Парижская коммуна". І ў гэтай групе часта ўжываецца імя галоўнага бальшавіка — "Знамя Ленина", "Заветы Ленина", "Заветы Ильича", "Путь Ленина", "Путь Ильича", проста "Ленинец". Назвы аж васьмі гаспадарак пачынаюцца са слова "красный". Чырвоны ў нас "партызан", "знамя", "звезда", "пахарь", што, калі ўлічваць неадназначнасць ва ўспрыманні многіх колераў, таксама насцярожвае. Але, зразумела, тут на ўвазе маецца толькі класавасць гэтага колеру. Добра яшчэ, адзначым, што гэты колер не мае той шматзначнасці, які набылі некаторыя нашы колеры. Ніводзін калгас не называецца сення ў нас, напрыклад, "Голубые пахари".

Сярод назваў, якія маюць у сваім складзе даты, больш за ўсё "40 лет Октября" (5 гаспадарак), ёсць яшчэ "1 мая", "50 лет БССР", "30 лет БССР", "17 сентября".

Час ад часу ўжываецца той або іншы партыйны шабаш. Ёсць калгасы "17 партсъезд", "19 партсъезд", "24 съезд КПСС". Выбарачнасць гэтых назваў, відаць, адвольная, бо зразумець чым 23 з'езд КПСС ці 18 партз'езд горшыя за вышэйзгаданыя, здагадацца немагчыма.

І яшчэ. Аж пяць гаспадарак Брэстчыны носяць назву "Расія". Чаму ў адной асобна ўзятай вобласці, дзе таксама імкнуліся жыць "единым человечьим общежитием", такі перакос назваў на карысць адной рэспублікі-сястры — таксама немагчыма зразумець. Ну, няхай не назвалі хоць адзін калгас "Азербайджан" ці "Таджыкістан". Гэта — далёкія суседзі. Але чаму было не згадаць пра родную Украіну ці суседку Літву? Ці можа гэта інтуітыўнае чуццё, чаканне, што калісьці і на Беларусі з'явіцца правадыр, які скажа, што "... без Расіі мы прападзем".

*Аляксандр ГОРБАЧ.*
*г. Івацэвічы.*

# Беспрэцэндэнтны судовы працэс

22 сакавіка ў судзе горада Рэчыца (Гомельская вобласць) пачаўся разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да 21-гадовага мясцовага жыхара Валянціна Гулая, які абвінавачваецца ва ўхіленні ад праходжання тэрміновай вайсковай службы.

Асаблівасць гэтага выпадку ў тым, што малады чалавек - член рэлігійнай абшчыны Сведкаў Іеговы, і веравызнанне хлопца катэгарычна забараняе яму службу ў войску. Праўда, В. Гулай прасіў кіраўнікоў Рэчыцкага ваенкамата і абласной прызыўной камісіі прадаставіць яму магчымасць прайсці альтэрнатыўную, грамадзянскую службу, прычым нават тэрмінам больш працяглую, чым вайсковая. Аднак рэчыцкі ваенны камісар палкоўнік Бельскі нагадаў В. Гулаю, што ў Беларусі не прыняты закон аб альтэрнатыўнай службе і таму яго просьба не можа быць разгледжана. Затым В. Гулай звярнуўся да старшыні абласной прызыўной камісіі Уладзіміра Давідовіча, дзе ўказаў на гарантаванае Канстытуцыяй права грамадзян на веравызнанне. У адказ на гэта абласны чыноўнік напісаў хлопцу заключэнне, што "веравызнанне не вызваляе ад выканання абавязкаў вайсковай службы". Такім чынам, Валянцін Гулай быў прызваны ў чыгуначныя войскі, але ад службы ўхіліўся. Рэчыцкая міжраённая пракуратура ўзбудзіла па гэтым факце крымінальную справу, а 23 лютага 2000 года В. Гулай быў арыштаваны.

Калі віна маладога чалавека будзе даказана судом, яго могуць прыгаварыць да пазбаўлення волі на тэрмін ад 1 да 5 гадоў.

*БелаПАН.*

ПРАБЛЕМЫ

# ЦЯЖКА НА ВЁСЦЫ БЕЗ КЛУБА

*Шчыра кажучы, да гэтых хлопцаў мы трапілі выпадкова. Настаўнік фізкультуры Мілейкаўскай базавай школы В. С. Макарэвіч параіў нам для конкурсу "Сябры гармоніі і штангі" звярнуцца "на хату" — пустуючы вясковы дом, які абжылі сабе мясцовыя хлопцы для заняткаў бодыбілдынгам.*

*І вось мы "на хаце". Вясковы дом, вокны якога знадворку забіты дошкамі. Два пакоі, сцены якіх густа заклеены фотаздымкамі, календарамі, плакатамі, выразкамі з часопісаў, каталогаў. Так густа, што няма прасветаў, не відаць сцен. У першым пакоі — штанга, турнік. У другой — гімнастычныя маты, баксёрская груша.*

*Увогуле, беднавата тут, але ў вачах у хлопцаў, што тут знаходзяцца, энтузіязм. Знаёмімся. Саша Памазенка і Саша Горбач — сталыя наведвальнікі "хаты" — згадзіліся адказаць на некаторыя пытанні.*



**— Скажыце, хлопцы, дзе ў Мілейках адпачыць можна?**

— Тут і адпачываем. У нашай вёсцы клуба няма, калісьці будаваўся ён ў суседніх Жамайдзяках, але так і не дабудавалі яго. Здаецца і вёска наша не маленькая, а клуба няма.

**— Але наступае суботні вечар... куды накіроўваецца мілейкаўская моладзь!**

— Хто куды. Хто ў Касава. І хлопцы, і дзяўчаты дабіраюцца як каму прыйдзецца. Даехаць і прыехаць з танцаў — галаўны боль большасці мілейкаўскіх хлопцаў і дзяўчат. Асабліва дзяўчат. Бо ў большасці нашых хлопцаў — матацыклы. Бывае, што выязджаем цэлай калонай.

**— А як вы абжылі гэтую "хату"!**

— На праўленні нашай аграфірмы было вырашана выдзеліць для моладзі вёскі пустуючы вясковы дом, дапамаглі падключыць да электрасетак. У нас тут і лічыльнік стаіць, як бачыце. Дзякуй і за такі клопат. А звярнуліся ў праўленне калгаса нашы бацькі.

**— Чым жыве сёння вясковая моладзь! Вось вы захапіліся бодыбілдынгам. А чым іншыя!**

— Многія вядуць бязладны лад жыцця, п'юць, кураць, да атлетызму адносяцца з насмешкай. Маючы такія "захапленні", цяжка далучыцца да спорту. І на дыскатэках шмат сустракаецца моладзі, якая, так бы мовіць, пад мухай, нават дзяўчаты.

**— Што падштурхоўвае менавіта вас да занятkaў бодыбілдынгам!**

— Жаданне стаць мацнейшымі. Сёння маладому хлопцу трэба жалезныя кулакі. На дыскатэках часта ўспыхваюць бойкі. У некаторых вёсках такія нахабныя хлопцы, што даводзіцца процістаяць сваёй групай хлопцаў.

**— Што! Вёска на вёску!**

— Бывае і такое. Вось непадалёку ад нашай вёскі знаходзіцца вёска Грыўда, з хлопцамі якой мы пастаянна варагуем. Таму трэба мацаваць свае сілы і здароўе.

**— Што ж, жадаем вам, каб аб'ём вашых біцэпсаў быў як у А. Шварцэнэгера, а бойкі ніколі не ўзнікалі.**

*Гутарылі Наталля КАПЫЦІЧ, Аляксандр МІХАЛЕНКА.*
*Івацэвіцкі раён.*

ДЗЯРЖАВА І МЫ

# Вясновыя "зачисткі"

22 сакавіка 2000 г. у Берасцейскае абласное аддзяленне Праваабарончага цэнтра "Вясна" па г. Баранавічы звярнуліся маладыя жыхары горада Мікалай Агароднік і Раман Гундар з заявай аб тым, што груба парушаны іх правы.

А адбылося наступнае: 21 сакавіка а 21 гадзіне яны расклейвалі на аўтобусных прыпынках аб'явы на дазволены Баранавіцкім гарвыканкамам мітынг, прысвечаны Дню Волі. З сабой яны мелі нават копію дазволу гарвыканкама. Раптам каля іх прыпыніўся міліцэйскі УАЗік, з якога выйшлі трое міліцыянтаў. Адзін з іх запытаўся: пакажыце, што вы тут клеіце. Прачытаўшы аб'яву (фармату А-4) з ужо нанесеным клеем, ён размахнуўся і з сілаю наклеіў яе на грудзі Мікалаю Агародніку, сапсаваўшы яму куртку.

Далей усё ішло па добра распрацаванаму сцэнарыю: міліцыянты, нават не прадставіўшыся, пінкамі пад "мяккае" месца запіхнулі хлопцаў у машыну і адвезлі ў пастарунак, дзе пратрымалі паўтары гадзіны, нават не даўшы паведаміць дадому бацькам. Пратакол на іх складзены не быў, бо ведама ж не было за што, але ад іх патрабавалі пісаць тлумачальныя запіскі: дзе яны бралі аб'явы і да якой яны партыі належаць. У іх былі канфіскаваны ўсе аб'явы, клей ПВА, а таксама відэамагнітафон, які потым аддалі.

Але парушальнікам закону прыйдзецца адказваць за сапсаваную куртку і за незаконны арышт. З дапамогай Праваабарончага цэнтра "Вясна" складзены зварот у пракуратуру на неправамерныя дзеянні супрацоўнікаў міліцыі, рыхтуецца заява ў суд.

Дарэчы, гэткі ж незаконны хапун адбыўся тыдзень назад, 16 сакавіка. Тады, за расклейванне аб'яваў на дазволены пікет, міліцыянтам Аляксеем Шарбацэнкам былі дастаўлены ў пастарунак Галіна Багдановіч з КХП і Марына Філімоненка з таварыства беларускай мовы.

Паўстае пытанне: няўжо міліцыі няма сур'ёзнай працы і яна такім чынам хоча выканаць план па затрыманнях? Ці тут выконваецца загад адной усім вядомай асобы?

*Сяргей ГОЎША, старшыня Берасцейскага абласнога аддзялення Праваабарончага цэнтра "Вясна" ў г. Баранавічы.*

**P. S. Нягледзячы на запалохванні, мітынг, прысвечаны Дню Волі, у Баранавічах усё ж адбыўся. Прысутнічала на ім болей 200 чалавек. Мітынг старанна "ахоўваўся" і напрыканцы яго, калі ўсе прысутныя пачалі разыходзіцца, позву ў міліцыю атрымаў сябар ПЦ "Вясна" У. Гоўша. Больш за 30 маладых радыкалаў паспрабавалі прайсціся па цэнтральнай вуліцы горада са сцягамі і харугвамі, але тут жа з'явілася машына, поўная амапаўцаў, якія перакрылі вуліцу і загадалі звярнуць сцягі, пасля чаго правялі хлопцаў на машыне аж да Управы БНФ, дзе святкаванне і доўжылася.**

ТАЛАНТЫ СРЕДИ НАС

# "Щелкунчик" в школе

Спектакль по известной сказке Гофмана "Щелкунчик", но в новом, осовремененном виде, представила зрителям театральная студия "Улыбка" средней школы № 1.

Руководитель кружка Галина Валентиновна Гринчик и ребята-актеры, ученики пятых—шестых классов, были озабочены тем, что условий для выступления, по сути, не оказалось. Костюмы мастерили сами, несколько взяли в ГДК. Декораций в школе не было, а доставить их из того же ГДК не нашли машину. Ко всем напастям сломался еще и занавес, поэтому менять созданную на ходу декорацию и костюмы пришлось не закрывая сцену — на глазах зрителей.

И все-таки спектакль состоялся — все-все зрители перенеслись в сказку...

Маленького храброго Щелкунчика заколдовала вредная королева Мышильда. Чтобы спасти любимого Щелкунчика, девочка Мэри отправляется за орехом Кракотук. Только раскусив этот орех, Щелкунчик освободится от чар Мышильды. В дальнем шахстве нашла Мэри орех Кракотук и в обмен на него отдала свою красоту дочке шаха.

Спасенный Щелкунчик, уже превращенный в прекрасного принца, не мог поверить, что перед ним та самая Мэри! И все-таки, за ее доброе сердце, бескорыстие и щедрость он ее полюбил. Случилось чудо — Мэри стала красавицей, какой была. И даже еще лучше.

Сказка завершилась благополучно. Стоило еще раз убедиться, что даже при всех неудачах, которые подстерегли ребят, настоящие актеры могут многое. Даже необычное сочетание классической музыки Чайковского и современной песни "Щелкунчик" в исполнении Б. Моисеева, оказалось вполне уместным в ходе спектакля.

За свое выступление ребята получили призы и грамоты, которые им вручил директор школы Е. А. Криваль.

— Конечно, очень хочется, чтобы были у нас костюмы, декорации, занавес, — говорит Галина Валентиновна, — но что делать, если нет средств? Иной раз я сама думаю бросить эту работу, но ребятам действительно нравится играть, они учат слова и выкладываются во время репетиций. Их работа меня и удерживает. Посмотришь, как горят у них глаза, как стараются, и ищешь выход, выкручиваешься, находишь способ поставить что-нибудь новенькое.

*Спектакль посетила Наталья КОПЫТИЧ.*
*г. Ивацевичи.*

АГЛЯДЫ

## Артысты з ПТВ

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У ПТВ-162 22 сакавіка прайшоў абласны агляд мастацкай самадзейнасці "Алё, мы шукаем таленты". Мэта правядзення агляду — папулярызацыя эстэтычнага выхавання навучэнцаў, выяўленне новых талентаў і далейшае развіццё самадзейнай мастацкай творчасці.

Сам конкурс складаўся з двух частак "Люблю цябе, Белая Русь" і эстраднага аддзялення. Удзел у праграме прымалі не толькі навучэнцы ПТВ, але і майстры вытворчага навучання.

Абласная камісія засталася задаволенай выкананнем праграмы конкурсу-агляду.

*Наталля КАПЫЦІЧ.*

З ЗАЛЫ СУДА

# Ім хацелася жыць прыгожа



Іна Васілеўская і Алена Лябедзіч пазнаёміліся і пасябравалі ў ПТВ-90 г. Брэста. Вясковых дзяўчат (першая — з в. Здзітава Бярозаўскага раёна, другая — з в. Броды Пружанскага) аб'яднала агульнасць характараў, жаданне прыгожа жыць. У іх уяўленні гэта значыла мець шмат грошай, валодаць каштоўнымі і прыгожымі рэчамі, мець магчымасць наведваць бары і рэстараны, дзе, на іх думку, бурліла сапраўднае жыццё. А прыгожа жыць хіба забаронізш?

20 верасня мінулага года дзяўчаты прыехалі ў Бярозу да знаёмай Вольгі Ч. Сустрэчу адзначылі шчодрай выпіўкай. На наступны дзень наведалі сям'ю Д., якая запрасіла дзяўчат за стол паабедаць. Іна, пабачыўшы на кухні кашалёк, прапанавала Алене ўкрасці грошы. Сцягнулі адзін мільён рублёў. Наеўшыся, сяброўкі выйшлі разам з гасціннымі гаспадарамі з дому і развіталіся. Аднак Васілеўская не магла супакоіцца, пабачыўшы, як заможна жывуць не знаёмыя. Яна прапанавала Алене вярнуцца, каб забраць астатнія грошы з кашалька. Дзверы аказаліся зачыненымі. Васілеўская праз фортку адчыніла акно і трапіла ў дом. Забраўшы астатнія 1.300.000 рублёў (старых), яна пайшла шукаць, што яшчэ ўкрасці. З шафы ў спальні ўзяла дублёнку, дзве блузкі і норкавую шапку. Праз дзверы ўпусціла на кухню Алену Лябедзіч. Дзяўчаты схавалі ўкрадзенае ў сумку і пакет. У той жа дзень дублёнку прадалі на малым рынку ў Бярозе, а на гэтыя грошы набылі спіртных напояў і харчоў, якімі пачаставалі сваю сяброўку Вольгу Ч., а вечарам схадзілі ў бар. Шапку Васілеўская прадала на наступны дзень.

Дзяўчаты гульнулі і раз'ехаліся. Алена — на вучобу ў Брэст, Іна — дахаты ў Здзітава.

Падчас судовага пасяджэння А. Лябедзіч дала паказанні, якія крыху змякчылі малюнак гэтага злачынства. Яна прызналася, што перад рабаваннем дома гасцінных гаспадароў яна вагалася. Пыталася ў Іны: для чаго ім усё гэта патрэбна? Іна яе заспакоіла: калі што, дык віну яна возьме на сябе.

Падсудныя І. Васілеўская і А. Лябедзіч сваю віну прызналі цалкам. Іх вінаватасць у здзяйсненні злачынства пацверджана паказаннямі пацярпелых, сведкаў, дадзенымі экспертызы, пратаколамі на канфіскацыю ўкрадзеных рэчаў.

Наўмысныя дзеянні ў тайным крадзяжы маёмасці, па папярэдняму згавору і ў групе, з пранікненнем у жылое памяшканне з нанясеннем значнай матэрыяльнай страты кваліфікавана судом як злачынства, прадугледжанае ч. 3 арт. 87 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго, падсудная І. Васілеўская, якая прыцягнула непаўналетнюю А. Лябедзіч да крадзяжу, здзейсніла злачынства, прадугледжанае арт. 205 Крымінальнага кодэкса РБ.

Паколькі І. Васілеўская з'яўлялася арганізатарам і непасрэдным выканаўцам, уцягнула ў брудную справу непаўналетнюю А. Лябедзіч, суд назначыў ёй пакаранне ў выглядзе арышту тэрмінам на тры месяцы без канфіскацыі маёмасці. У адносінах да А. Лябедзіч вынесен прысуд: два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на адзін год. З І. Васілеўскай спагнана на карысць сям'і Д. сума нанесеных ёю страт.

*Ала ЗЯЛЁНКА, суддзя Бярозаўскага раённага суда.*

ЧТО ВОЛНУЕТ

# БОЛОТА ОСУШИЛИ И... ЗАБЫЛИ

Я уже старый человек, но несмотря на это прошлым летом побывал всетаки на осушенных торфяниках, которые расположены в южном направлении от Телехан. Это урочище "Хворощанское". Почему меня потянуло туда? Очень просто. Я — бывший мелиоратор. Всю сознательную жизнь занимался осушением переувлажнённых земель и, в первую очередь, болот. Поэтому меня интересует, как же хозяйничают на торфяниках сегодняшние хлеборобы, как вообще выглядят торфяные массивы.

Начинал работать я в мелиорации еще при панской Польше в 1928 году. Торфяной массив, что расположен справа от дороги Телеханы—Пинск, не доезжая до деревни Краглевичи, был осушен в 30-е годы. Все работы, которыми руководили польские строители-мелиораторы, выполнялись вручную. Рабочая сила стекалась из всех окружающих деревень. Очень трудной и изнурительной была эта работа. Я сам ее попробовал. На торфяниках тех, помню, сеяли траву. Хорошие были покосы и, естественно,сено. Крестьяне продавали его государству для армии, имеется ввиду кавалерии. Это дало возможность местным крестьянам улучшить своё материальное положение, купить новую сбрую, повозки. Быков уже многие не использовали на транспортных работах. А еще появились повозки, как тогда говорили, на железном ходу (оси железные, ободы окованы железом и т. д.).

Всё это я говорю к тому, что уже в довоенное время осушенные торфяники приносили большую пользу людям.

В довоенное время уже при советской власти и в послевоенные годы вплоть до 1963 года я работал в Телеханском райисполкоме, занимался вопросами мелиорации, а потом перешел в ПМК-60. На смену ручному труду пришли машины, разработаны были новые технологии осушки болот, проводились исследовательские работы.

Я сперва трудился техником-гидротехником, потом прорабом участка, мастером-гидротехником. Столько труда было вложено в осушение урочища "Хворощанское"! Прокопали хорошие каналы, сделали шлюзы, мосты, дороги, заложили дренаж, вспахали все площади. Передали в эксплуатацию более шести тысяч гектаров плодородных земель.

В те годы колхоз "Россия", которым руководил т. Яськевич, хороший хозяин и организатор, получал высокие урожаи трав, зерновых культур. Замечательно росла наша белорусская бульба и свёкла. Словом, при правильной эксплуатации и уходе отдача от торфяников самая высокая.

Помню, в 50-е годы Телеханщина на всю республику гремела своими отменными коноплями, выращенными именно на торфяниках. А звеньевая по конопле из деревни Колонск Антонина Яковлевна Куратник даже была выбрана депутатом Верховного Совета СССР. Это была наша общая гордость. Кстати, в Москве на ВДНХ были экспонаты конопли из нашего района.



Почему сегодня, в век технического прогресса, не видно и не слышно таких маяков? На мой взгляд, наши ученые специалисты, что трудятся в колхозах, очень плохо хозяйничают на осушенных землях, живут, как говорят, одним днем. Сегодня посеял, что-то собрал, а там как Бог даст.

Известно, что всякая земля любит настоящих хозяев, профессионалов в своем деле, которые душой болеют за своё дело.

Что же я увидел на наших торфяниках? Поверьте, еще и сегодня болит душа от увиденного. Откосы тех каналов — и главных, и второстепенных — заросли сорняками. Их мало кто косит. А там, где посеяна трава, то в хорошем случае скошено. Но ведь этого мало. В каждом хозяйстве есть так называемые русловые ремонтеры. Но дело их не только обкосить откосы, как это рекомендуется. А главное — надо чистить те каналы. В этом урочище заложен дренаж. Это своеобразный регулятор грунтовых вод. От правильной эксплуатации зависит, конечно, и урожай. А о каком урожае может идти речь, когда эти дрены на выходе не чистятся русловыми ремонтерами. Излишкам влаги некуда деваться, и постепенно торфяники превращаются в болото.

В урочище "Хворощанское" уже есть такие места, где не может даже летом работать техника. А это уже беда.

В Ивацевичском районе более 54 тысяч торфяников. Подлежат реконструкции свыше 18 тысяч гектаров. Требует капитального ремонта почти 1300 километров оросительных каналов. Вдумайтесь в эти цифры!

Если в ближайшее время не будет исправляться дело, то мы потеряем черное белорусское золото. Обидно, что в нашем Телеханском СМУ простаивает техника, на торфяниках её не видно.

Насколько я знаю, Россия царская всегда продавала хлеб другим странам. Она считалась всемирной житницей. Имея столько земель, и Советский Союз раньше, и Беларусь наша сегодня покупают хлеб за рубежом. Смешно это выглядит, но это так. Нашим хозяевам земли и страны всегда что-то мешает: то дождь, то жара, то холод.

Еще недавно самые высокие чиновники-аграрники республики кричали на всю Беларусь, что Литва погубила себя, избавившись от колхозов. А сейчас, как ни прискорбно говорить, Беларусь покупает хлеб в той же Литве. Вот и дохозяйствовались мы со своими колхозами.

Я не против таких колхозов, где есть настоящий хозяин. Но в телеханской зоне я таких сегодня не вижу. Все разваливается на глазах у людей."

И еще об одном, на мой взгляд, больном вопросе. Уже не первый год идет речь о том, чтобы включить Телеханы (да, сам городской посёлок) в план мелиорации. Насколько я знаю, председатель исполкома Телеханского поселкового Совета С. А. Крек не раз ставила эту проблему перед районным начальством, перед высокими чиновниками из системы мелиорации республики. Никто не отказывается помочь, но и никто не помогает, ссылаясь на экономические трудности. А тем временем городской посёлок в районе улицы Весенней затопляет ежегодно. Мало кого волнует, что телеханцы бедствуют. Вспоминают о них только тогда, когда подходят выборы, и чиновники наперебой перед голосованием обещают выполнить все наказы наших жителей. Проходят выборы — и снова тихо.

Мне думается, что пора руководителям всех рангов повернуться к людям. Ведь на обещаниях далеко не уедешь, какими бы они не были вескими и весомыми. Правду сегодня говорят: болота осушили и... забыли.

*Александр Романович ВИКТОРОВИЧ, житель г. п. Телеханы, ветеран войны и труда, заслуженный мелиоратор БССР.*

РЭАЛІІ ДНЯ

# Пра тоны "ліпавыя" і сапраўдныя

***Наша ўлада ніяк да канца не можа паверыць, што калгасны лад не толькі даў вялікую трэшчыну, а проста зжыў сябе. Калгасы развальваюцца на вачах ва ўсіх, многія ўжо даўно, як кажуць, ляжаць на лапатках.***

Штогадовыя трыльёнвыя ўліванні, якія робіць дзяржава, часова падтрымліваюць хворы калгасна-саўгасны лад.

Гэта яскрава відаць са становішчам калектыўных гаспадарак у Івацэвіцкім, Бярозаўскім і Баранавіцкім раёнах. Бясконцыя даўгі, нізкія цэны на сельгаспрадукцыю дабіваюць і без таго "ляжачыя" гаспадаркі.

Наша вёска настолькі пастарэла, што там па сутнасці мала засталося рабочай сілы.

У калгасе "Рассвет", напрыклад, (Івацэвіцкі раён) яшчэ 5—6 гадоў таму хапала, нават былі лішкі, рабочай сілы. А сёння там маюць патрэбу ў механізатарах, даярках, паляводах... Гэта, так сказаць, аддаленая гаспадарка ад райцэнтра. А што ўжо гаварыць пра калгас "Бальшавік", дзе патрабуюцца работнікі многіх прафесій. А тыя, што працуюць, у большасці пенсіянеры.

Прычына такога становішча ўсім відавочная: няма заробку. Таму няма і чым карміцца людзям. Яны ўцякаюць з калгасаў у пошуках хаця б якой-небудзь зарплаты.

Аб тым, што нашы калгасы сёння не ў стане забяспечыць нават жывёлу кармамі на стойлавы перыяд сведчыць рашэнне Івацэвіцкага райвыканкама ад 29 студзеня гэтага года "Аб аказанні дапамогі сялу ў нарыхтоўцы травяністых кармоў з несельгасугоддзяў у 2000 годзе".

Не ад добрага жыцця "вешаюць" на шыю нашаму рабочаму люду прадпрыемстваў, установ і арганізацый так званую дапамогу. А гэта адрыў ад асноўнай работы, якая аплочваецца сёння вельмі мізэрна. Адраджаецца, як у старыя савецкія часы, шэфская дапамога. Словам, усе працуючыя з'яўляюцца шэфамі сельскай гаспадаркі. Сумна і балюча глядзець на такую шэфскую дапамогу пад прымусам.

Летась, напрыклад, хтосьці з шэфаў касіў на няўдобіцах, а хтосьці сянку на тарфяніках. Праўда, ёсць розніца?

У мінулым годзе ў Івацэвічах таксама было прынята падобнае рашэнне. Выканана яно на 84,5 працэнта. Падтрымалі калгасную жывёлу рабочыя і інтэлігенцыя. Але ж кармоў у калгасах усё роўна не хапае. Сёння ў некаторых гаспадарках хутка не будзе і саломы, а да пашавага перыяду яшчэ далёка.

Цікавы, на наш погляд, дадатак № 1 да рашэння Івацэвіцкага райвыканкама.

Узяць хаця саўгас "Перамога". Як-ніяк, дзяржаўнае сельгаспрадпрыемства. Дзяржава ўклала столькі сродкаў на яго будаўніцтва, на меліярацыйныя работы, а аказваецца, што яно самастойна працаваць не можа. Няма ўжо сілы і сродкаў, каб забяспечыць жывёлу нават сенам. Райвыканкам даеў план шэфам нарыхтаваць для "Перамогі" звыш 600 тон сена. Калі браць з разліку, як гэта робяць вяскоўцы, што на карову на зіму трэба тры тоны сена, то шэфы павінны пракарміць увесь стойлавы перыяд звыш 200 кароў. Гэта цэлую ферму. Што ж тады будуць рабіць рабочыя саўгаса?

Можа пытанне пастаўлена не зусім правільна. Лепей было б сказаць, што там не хапае рабочай сілы, каб выканаць такую работу. Няма каму працаваць і ў калгасах. Бо з кожным годам і там зніжаюцца надоі і прывагі буйной рагатай жывёлы. Няма каму працаваць — няма і кармоў, няма аддачы.

Дзіўны сам па сабе і такі факт. Захудалым гаспадаркам, такім як "Бальшавік" і "40 год Кастрычніка", запланавана, што шэфы нарыхтуюць адпаведна 164 і 133 тоны сена. Словам, слабым і дапамога чакаецца слабая.

Тут, канешне, можна і памыліцца, бо, згодна з рашэннем аблвыканкама, яшчэ 8900 тон кармоў для раёна павінны нарыхтаваць прадпрыемствы г. Баранавічы. Як гэта будзе выглядаць на практыцы, пакуль што ніхто не ведае.

Трэба зазначыць, што Івацэвіцкі райвыканкам дазволіў прадпрыемствам і арганізацыям па ўзгадненню з гаспадаркамі аказваць ім фінансавую падтрымку і дапамогу ў набыцці гаруча-змазачных матэрыялаў, запасных частак, рамонце кормаўборачнай тэхнікі на суму, эквівалентную да 50 працэнтаў кошту сена, устаноўленага заданнямі па нарыхтоўцы.



А дзе ж браць грошы тым жа прадпрыемствам і ўстановам? Ніхто не сумняваецца, што гэта абавязкова закране мізэрныя грашовыя заробкі рабочых і служачых і, вядома, не ў бок павелічэння. Тут непатрэбна быць вялікім матэматыкам.

І яшчэ аб адной праблеме. Летась да нас у рэдакцыю прыходзілі і званілі чытачы (асабліва з жаночых калектываў) і пыталі, як быць, бо на месцах ім гаварылі проста: у вас ёсць мужы, хай і косяць. Калі не ўсе сталі касіць, то жанчын пачалі пасылаць на розныя праполкі, у большасці буракоў, і гэта залічвалі ў тоны запланаванага сена. Колькі такіх "ліпавых" тон будзе сёлета?

Так складаліся тыя тоны нарыхтаванага сена. Яго сёлета трэба назапасіць шэфам 4704 тоны. У гэтую лічбу ўключаны тыя 459 тон, якія не былі згодна з рашэннем райвыканкама летась выкананы шэфамі.

Ці справяцца шэфы з даведзеным планам нават пад пільным вокам намеснікаў старшыні райвыканкама, якіх абавязалі кантраляваць ход касьбы на несельгасугоддзях?

Работа пад прымусам ва ўсе часы была мала прадукцыйнай, не давала належнай аддачы. У эпоху рыначнага сацыялізму штосьці змяніцца, штосьці паспрыяе высокапрадукцыйнай працы і вызначаныя шэфы паставяць на ногі ляжачыя, у прамым і пераносным сэнсе, гаспадаркі раёна. Думаецца, што гэта надзеі, вартыя жалю.

*Іван ЯНОВІЧ.*

